# ГОРЕЦКИЙ ВЫБОР

Общественная газета

№5 (61)

Март 2009г.


# Асамблея

**У Менску 6-7 сакавіка сабраліся 330 прадстаўнікоў недзяржаўных арганізацыяў, замежныя госьці, журналісты незалежных і ўрадавых сродкаў масавай інфармацыі.**




*Горацкія ўдзельніцы Асамблеі каля свайго інфармацыйнага стэнду*

*Прысутных уразілі аматарскія фатаздымкі актывісткі Горацкага таварыства інвалідаў Людмілы Гусаравай ( на здымку - зьлева)*

***Тацяна Кіраенкава - былая кіраўніца гарадзкой жаночай грамадзкай арганізацыі, і зараз у ліку грамадзкіх актывістак***

**Дзякучы Галіне Буднай (на здымку - справа), быў адрамантаваны масток праз Парасіцу. Гэта яна сабрала подпісы жыхароў Слабады.Хто ходзіць туды з вуліцы К.Маркса - зьвярніце ўвагу**

## Шостая асамблея стала найбуйнейшым форумам НДА ў дванаццацігадовай гісторыі правядзеньня падобных сходаў.

Сустрэча адкрылася словамі Аляксандра Патупы і Вінцука Вячоркі, якія былі сярод заснавальнікаў Асамблеі НДА ў 1997 г. Свае вітальныя прамовы сказалі таксама Аляксандар Мілінкевіч і Аляксандар Казулін (які выступіў перад абмеркаваньнем заявы, прысьвечанай палітычным рэпрэсіям), амбасадар Швэцыі Стэфан Эрыксан. Хаця арганізатары даслалі запрашэньне да ўдзелу ў прэзыдэнцкую адміністрацыю, улады вырашылі праігнараваць яго.

Ацэньваючы ў сваім выступе сытуацыю ў беларускім трэцім сэктары, старшыня Рабочай групы Асамблеі НДА Сяргей Мацкевіч падкрэсьліў: "Глябальных зьменаў не назіраецца ні ў цэнтры, ні ў рэгіёнах. Можа зьмянілася рыторыка ўладаў да больш памяркоўнай, а ў сваіх дзеяньнях яны ўсё роўна кіруюцца тым заканадаўствам, якое ёсьць, а яно ў вялікай ступені рэпрэсіўнае. І тымі звышмэтамі – не дапусьціць да легальнай дзейнасьці апанэнтаў улады. Зьявіліся, нажаль, новыя формы перасьледу актывістаў. Мы жадаем рэальных, а не касмэтычных зьменаў у сытуацыі".

Удзельнікі заслухалі ды абмеркавалі справаздачы шасьці рэгіянальных і шасьці тэматычных круглых сталоў, што былі праведзеныя ў студзені-

**Працяг на ст.2**

# Асамблея

## Пачатак на ст.1

лютым гэтага году ў межах падрыхтоўкі да Асамблеі. Тэмамі гэтых сталоў былі правы чалавека, экалягічны актывізм, сацыяльныя і жаночыя НДА, грамадзянская адукацыя, новыя мэдыі як форма грамадзкай актыўнасьці, пытаньні дзейнасьці НДА ў канкрэтных рэгіёнах. Бальшыня выступоўцаў адзначыла нэгатыўныя тэндэнцыі пагаршэньня ўмоваў для грамадзянскай супольнасьці ды рэалізацыі права на свабоду асацыяцыяў, нягледзячы на г.зв. "лібэралізацыю". Падобныя высновы таксама ўтрымліваліся ў маніторынгах, якія былі падрыхтаваныя супольнымі намаганьнямі шэрагу НДА.

Цягам абодвух дзён мерапрыемства адбываўся Фэст грамадзкага актывізму, у першы - выстава стэндаў, а ў другі НДА знаёмілі калегаў са сваімі кампаніямі і праграмамі, дэманструючы відэаролікі і прэзэнтацыі. Усяго на фэсьце 28 арганізацыяў прадставілі свае стэнды, 11 - відэаролікі, 17 - прэзэнтацыі сваіх праграмаў. Журы адзначыла прызамі тры лепшыя прадстаўленьні.

Урэшце, удзельнікі VI Асамблеі ўхвалілі шэраг рэзалюцыяў, заклікаючы ўрад правесьці рэальную лібэралізацыю, нармалізаваць стасункі з грамадзкім сэктарам, скасаваць усе формы палітычных рэпрэсіяў, і ўключыць грамадзянскую супольнасьць ў дыскусію аб мэтазгоднасьці пабудовы АЭС у Беларусі.

*Паводле рассылкі belngo.info*

# Патраеньне асобы

Гэтаая тэма набыла актуальнасьць амаль што з пачаткам паседжаньняў. Кім, насамрэч, есьць людзі, якія сабраліся ў залі? Ня першы раз, дарэчы, чую такое пытаньне, але спробы адназначна адказаць на яго даўно ўжо адклаў у бок, бо прыйшоў да высновы, што такога адказу не існуе. Многія з тых, хто ўваходзіць у грамадзкія фарміраваньні, адначасова есьць і сябрамі партыяў, і журналістамі, і.г.д. Сам я, дарэчы, уваходжу ў партыю БНФ, ГА БНФ "Адраджэньне", Рух "За свабоду"... Ну і куды ж мне цяпер? Як кажуць, да разумных, ці да прыгожых? А можа, калі есьць сілы і жаданьне да працы, лягічней махнуць рукою на "палітычныя забабоны", ды проста рабіць, што можаш?

Найбольш востра такое пытаньне паўстала падчас вылучэньня дэлегатаў у працоўныя ворганы Асамблеі. Прынамсі, той-сёй зь меньчукоў абвінавацїў Вінцука Вячорку ў тым, што ен... сябар партыі, і, маўляў, не мае права ўваходзіць у грамадзкае аб'яднаньне. У сваім выступе (да гонару арганізатараў магчымасьць выказацца давалася ўсім, хто меў, што сказаць) Вінцук нагадаў, што ен адначасова адзін зь кіраўнікоў ГА "БНФ Адраджэньне".

- Як бы нам гэтага ні хацелася, але "хімічна чыстага" грамадзкага сэктару ў сучаснай Беларусі быць ня можа. – Працягнуў сп.Вячорка.

Падтрымалі аднаго з заснавальнікаў нацыянальнага грамадзкага руху і іньшыя выступоўцы. І сапраўды, калі трымацца гэтай лёгікі, дык партыйцам, што? - трэба цяпер выключаць са савіх радоў сябраў ГА? Во сьмеху будзе! І ўсіх грамчэй стануць рагатаць, напэўна, супрацоўнікі розных "кантор", якія, дагэтуль і ў снах ня бачылі такой лафы – дэмакраты разганяюць адзін другога. АМАП адпачывае.

Відавочна, разумеўшы абсурднасьць выказаных прэтэнзіяў, іх аўтары падчас галасаваньня сыйшлі з залі.

# Кіно

З дванадцаці відэаролікаў, якія былі прадстаўленыя на суд арганізатараў, сем паходзіла з Магілеўскай вобласьці. Актывісты з нашага абласнога цэнтру зьнялі вельмі якасны фільм пра абласную грамадзкую супольнасьць. Горкі былі прадстаўленыя шасьцю невялікімі відэапрэзэнтацыямі. Ды яшчэ адзін мініфільм распавядаў пра дзіцячы летнік "Захаваем Беларусь для нас!", які праводзілі на Дрыбіньшчыне мінскія маладзёны. Разам з апошнімі ў ліку ляўрэатаў, урэшце, апынуліся магіляўчане, ды адна менская каманда студэнтаў.

Стэндаў жа з самай рознай "інфой" было нашмат больш, але іх чамусьці ніхто не ацэньваў.

# Актуальна

Асноўнымі праблемамі грамадзкага сэктару Беларусі ўдзельнікі часьцей за ўсё называлі ўзаемаадносіны з уладамі (дакладней – амаль што поўную немагчымасьць іх наладзіць, спыніўшы "гульню ў адны вароты"), а таксама нізкі ўзровень камунікацыяў паміж сабою. Тут, на мой погляд, поле неаранае для абранай працоўнай групы. Некалі добра й карысна працаваўшы сайт belngo.info зараз ня дзейнічае, але ж, братцы, на двары XXI стагодзе. Свае інтэрнэт-рэсурсы маюць ужо нават школьнікі. Таму і арганізацыю, у якой няма ўласнага сайту, успрымаць усур'ез будуць наўрад ці.

# Пярэдні край

"Самым важным з прынятых дакумэнтаў" назваў вядомы беларускі змагар зь "мірным атамам" Юры Варонежцаў рэзалюцыю, прынятую напрыканцы другога дня працы Асамблеі. І сапраўды – больш важнага пытаньня для нашае дзяржавы зараз не існуе. І справа ня толькі ў тым, будзе АЭС бясьпечнай, ці не.

Ня меньш важным ёстьць тое, што ад працэсу падрыхтоўкі канчатковага рашэньня цалкам адсунутая грамадзкасьць. Прывязка да адносна танных, але састарэўшых расейкіх тэхналёгіяў пагражае стратай ня толькі энергетычнай, але й палітычнай незалежнасьці...

Тыя ж зь людзей, хто шчыра хоча не дапусьціць будаўніцтва станцыі, альбо разрозьненыя, альбо ня ведаюць толкам, што рабіць. Нельга ж назваць агульнанацыянальнай кампаніяй преакідваньне з сайта на сайт "грозных" артыкулаў, нагадваючых вядомыя галасы ў пустыні. Толькі пустыня ў нашым выпадку пагражае стаць яшчэ й радыеактыўнай.

І вельмі своечасовым і правільным быў заклік сябра Горацкай антыядзернай групы Андрэя Юркова ісьці да людзей, несьці да іх праўдзівую інфармацыю. Вялікія спадзевы беларускія антыядзершчыкі ўскладаюць тут на ГА "Цэнтар падтрымкі чарнобыльскіх ініцыятываў", які літаральна днямі быў зарагістраваны Мін'юстам.

# Трагедыя



У другі дзень працы Асамблеі з Салігорска прыйшла жудасная навіна – скончыла жыцьце самагубствам тамтэйшая актывістка й праваабаронца, трыццацітрохгадовая Яна Палякова, якую мясцовыя "абаронцы Закону" баяліся настолькі, што прыгаварылі да двух з паловай год "хіміі". Жанчына, якая за сваю грамадзкую актыўнасьць увесь час падвяргалася перасьледу з боку "ўладаў" выбрала свабоду, заплаціўшы, нажаль, уласным жыцьцем. Вечная памяць ёй і вечная ж ганьба халуям у пагонах.

Працяг гэтай тэмы – на наступных старонках.
Іван МАРОЗАЎ

# В Солигорске простились с Яной Поляковой

Как рассказала пресс-центру Хартии'97 сотрудница центра «Правовая помощь населению» Раиса Михайловская, похороны начались с опозданием - тело задержали в морге.

По словам Раисы Михайловской, в похоронной процессии учувствовали около 200 человек. Среди них – соседи погибшей, жители Солигорска, правозащитники из Молодечно и Минска. Также на похороны Яны Поляковой приехали: лидер минских предпринимателей Алесь Макаев, демократические активисты Вячеслав и Галина Сивчик, сопредседатель партии «Белорусская христианская демократия» Виталий Римашевский, правозащитник Валерий Щукин, дочь бывшего политзаключенного Ольга Козулина и другие. Как сообщают жители Солигорска, на похоронах был замечен заместитель председателя Солигорского райисполкома по идеологической работе Казакевич.

«Пришли простые люди со скромными венками и букетами, — сказала пресс-центру Хартии'97 Раиса Михайловская. — Они говорили, что в смерти Яны виноваты белорусские власти. Мама Яны Поляковой убита горем. Сидела возле гроба, плакала».

«Яна – боец, — сказал во время похорон правозащитник Валерий Щукин. — Она, как одинокий волк, бросилась спасать свой народ».

Сопредседатель партии «Белорусская христианская демократия» Виталий Римашевский в свою очередь подчеркнул, что белорусские демократы должны приложить все усилия, чтобы узнать, кто довел Яну Полякову до самоубийства, и найти виновных.

Многие присутствовавшие на похоронах Яны Поляковой просили прощение, что не поддержали ее в тяжелую минуту.

Напомним, что солигорская правозащитница Яна Полякова, осужденная Солигорским судом, покончила жизнь самоубийством в ночь на 7 марта.

Она являлась активисткой организации «Правовая помощь населению», сотрудничала с другими правозащитными организациями, входила в состав инициативной группы дочери Александра Козулина Ольги на «парламентских выборах» 2008 года.

3 марта судом Солигорского района (судья Буравцов) правозащитницу осудили по части 2 статьи 400 Уголовного кодекса РБ - «Заведомо ложный донос». Яну Полякову приговорили к 2 годам и 6-ти месяцам ограничения свободы (так называемой «химии»), а также потребовал возместить «моральный ущерб» в размере одного миллиона рублей в пользу потерпевшего участкового милиции Пугачева В.А., который недавно вышел на пенсию. А все потому, что именно этого милиционера Полякова обвиняла в избиениях. В ноябре прошлого года большой резонанс получила история с преследованием солигорской правозащитницы со стороны правоохранительных органов. Яна Полякова сообщала, что за оппозиционную деятельность ее неоднократно задерживали сотрудники милиции. Также сообщалось, что в отделении женщину избивали, а однажды ей чуть не сломали руку.

## Комментарий редактора

*Самые искрение соболезнования семье Яны. Щукин прав - она в одиночку бросилась спасать народ, а такую нагрузку и не каждый мужик выдержит.*

## НО

*Нигде, ни нв одном сайте (в том числе - козулинском) я не нашел информации о том, как же Ольга Козулина и ее отец (люди с не самыми слабыми возможностями для этого в Беларуси) поддержали Яну в период репрессий против нее. Чем помогли? Юридической защитой? Информационной кампанией, слышимой по всему свету? Психологической поддержкой?*

*Слабая женщина, вытянувшая, как я понял, на себе избирательную кампанию Ольги, после выборов, по старой традиции беларуских столичных "борцов", была просто брошена на произвол судьбы.*

*"Синдром кольцевой дороги", которым давно уже страдают многие претенденты на титул "национального лидера", приезжающие в регионы за подписями и (коллеги из регионов не дадут соврать) исчезающие оттуда потом до очередных выборов, проявился здесь особенно ярко.*

*Чтобы подраться с охраной "национального собрания", или спросить "где деньги, Саша?", много ума и способностей не надо. А вот создать условия для системной поддержки тех, кто тебе помогает по всей стране, для таких вот "претендентов" кишка тонка.*

*При этом, Козулины не впервые подставляют поверивших им людей. Рискую нарваться на возмущение многих однодумцев, но считаю, что А.К. в марте 2006-го абсолютно безответственно повел людей по неподготовленному и непроверенному маршруту, в результате чего завел их в ловушку, пофессионально расставленную и не мечтавшим о такой роскоши ОМОНОМ: бежать демонстрантам было фактически некуда и посторонних глаз - минимум. Потом Козулин оказался героем, которого спасали всем миром, а об избитых и задержанных людях вспоминать было некому, да и не с руки. За блеском "лидера" их маленькие трагедии смотрелись как-то тускло, если вообще были заметны.*

*Еще раз низкий поклон Яне и соболезнования ее близким, но задумайтесь те, кто собирается помогать этой компании дальше: не Вы ли - следующий?*

*Эдуард БРОКАРЕВ*



***Во дают!***

## В Кричеве «заминировали» дизель-поезд

В Кричеве местная жительница заявила о ложном минировании дизель-поезда по маршруту Кричев-Могилев.

Об этом сообщил агентству «Интерфакс-Запад» начальник кричевского отдела внутренних дел на транспорте **Юрий Козлов**.

«26-летняя жительница Кричева, находясь в состоянии алкогольного опьянения, в дизель-поезде Кричев-Могилев на железнодорожной станции Кричев в 21 час 15 минут сообщила пассажирам, что поезд заминирован и скоро произойдет взрыв», - уточнил собеседник агентства.

При этом он добавил, что прибывшие на дизель-поезд сотрудники милиции и других служб, взрывное устройство не обнаружили.

«Движение поезда, отправление которого от станции Кричев по расписанию планировалось 15.03. в 21час 24 минуты, было задержано до утра. Пассажиры, купившие билеты до Могилева, были отправлены в областной центр другими поездами и маршрутными такси», - рассказал начальник ОВДТ.

По данному факту Кричевским отделом внутренних дел на транспорте завершается проверка, после чего материалы будут переданы в транспортную прокуратуру для принятия решения в отношении злоумышленницы, пояснил собеседник агентства.

## Яшчэ адзін папўся

Супрацоўнікамі міліцыі затрыманы пры атрыманні хабару ў памеры 30 тысяч даляраў ЗША начальнік Бабруйскай горрайінспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, дэпутат Магілёўскага абласнога Савета дэпутатаў, галоўны дзяржаўны інспектар Уладзімір Алейнік.

У. Алейнік быў затрыманы ў сваім працоўным кабінеце пры атрыманні хабару за станоўчае рашэнне пытання пры азначэнні месца вывазу, засыпанні грунта і будаўнічых адыходаў ад аднаго з бабруйскіх індывідуальных прадпрымальнікаў.

Па дадзеным факце пракуратурай вобласці ўзбуджана крымінальная справа па частцы 3 артыкула 430 Крымінальнага кодэкса, вядзецца следства.

***Максім Запрудны***

## Приказали покупать

Из-за экономического кризиса власти заставляют коммерческие организации покупать лук.

Брагинский райисполком Гомельской области обязал 52 местные организации приобрести в сельхозпредприятии «Брагинка» лук и выдать ее своим работникам в расчете 10 килограммов на человека, сообщает «Радыё Свабода».

В распоряжении №50, которое подписал первый заместитель председателя райисполкома **Валентин Хмеленок**, сказано, что такая реализация связана «с отсутствием рынков сбыта на лук».

4 ГОРЕЦКИЙ ВЫБОР
№ 5 март 2009г.

## ДНІ АДЧЫНЕНЫХ ДЗЬВЯРЭЙ У ЭГУ У ВІЛЬНІ

Эўрапейскі гуманітарны ўнівэрсытэт запрашае абітур'ентаў і іх бацькоў прыняць удзел у Днях адчыненых дзьвярэй, якія адбудуцца 25 красавіка й 23 траўня 2009 году.

Наведвальнікі даведаюцца аб навучаньні ў ЭГУ праз сувязі з кіраўнікамі ўнівэрсытэта й бакаляўрскіх праграмаў, са студэнтамі й выкладчыкамі.

Месца правядзеньня: навучальны корпус ЭГУ, вул. Валакупю (Valakupiu), 5. Нумар аўдыторыі будзе пазначаны на аб'яве пры ўваходзе ва ўнівэрсытэт.

Пачатак сустрэчы: 14.00.

Каб трапіць на дні адчыненых дзьвярэй, неабходна загадзя даслаць заяўку, форма якой знаходзіцца ў файле "EGU_application.doc", па адрасе: admission.b@ehu.lt.

Праграму сустрэчы й іншыя падрабязнасьці глядзіце на сайце: http://www.ehu.lt/news/notice/0012278/

## МАГЧЫМАСЬЦІ ДЛЯ ПОШУКУ ПАРТНЭРАЎ У ПОЛЬШЧЫ

Аддзел сацыяльнага супрацоўніцтва (Польшча) запрашае да ўдзелу ў першым інкубатары НДА-партнэрстваў, арганізаваным адміністрацыяй Шчэціна. Інкубатар прадаставіць магчымасьць НДА свайго рэгіёну знайсьці партнэраў па ўсім сьвеце. Усё, што трэба зрабіць беларускім грамадзкім аб'яднаньням, - прадаставіць кантактную інфармацыю ў банк дадзеных. Польская грамадзкая арганізацыя, зацікаўленая ў супрацоўніцтве зь беларускімі партнэрамі, зможа зрабіць тыя ж крокі.

Партнэрства патрабуецца шмат у якіх праграмах Эўразьвязу і рэгіянальных праграмах.

За больш падрабязнай інфармацыяй зьвяртайцеся да Ізабэлы Колсут на e-mail: ikolsut@wzp.pl, www.um-zachodniopomorskie.pl

«ГОРЕЦКИЙ ВЫБОР»
Общественная газета. № 5(61), март 2009г.
Издатель и главный редактор - ЭДУАРД БРОКАРЕВ. Brok61@yandex.ru T. 545 89 83. Издание непериодическое, выходит по мере возможности. Тираж 299 экземпляров.
Редакция самостоятельно принимает решения о размещении бесплатной социальной рекламы.
Редакция использует материалы сайтов: svaboda.org/ milinkevich.org/ racyja.com/ naviny.by/ pbnf.org/ belsat.eu/ horki.info/ charter97.org/ belradio.fm/ belarda.org/

## ШКОЛА АБАРОНЫ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА

Навучаньне на тэму "Грамадзкія кампаніі й судовая абарона правоў чалавека" для прадстаўнікоў беларускай грамадзянскай супольнасьці ладзіцца з 9 да 12 красавіка ў Чарнігаве. Арганізатары - Беларускі Хэльсынскі Камітэт і Чарнігаўскі грамадзкі камітэт абароны правоў чалавека.

У праграме школы лекцыі на наступныя тэмы: правы чалавека, дэмакратыя, дзеяньні НДА ў абарону грамадзкіх інтарэсаў, нацыянальная судовая сыстэма, практыка й асаблівасьці працы, досьвед разьвіцьця дэмакратыі й правоў чалавека ва Ўкраіне. У мерапрыемстве возьмуць удзел экспэрты ўкраінскіх, беларускіх, дацкіх арганізацыяў, адбудзецца сустрэча з судзьдзямі Чэскай Рэспублікі.

Апошні тэрмін падачы заявак: 31 сакавіка 2009 г.

Заяўкі на ўдзел прымаюцца на эл. адрас office@belhelcom.org. Рэкамэндацыйныя лісты вітаюцца.

Дадаткокую інфармацыю й форму анкеты глядзіце на сайце: http://www.belhelcom.org/index.php?option=com_content&task=view&id=1633&Itemid=85

## КОНКУРС ТВОРЧЫХ ПРАЦАЎ НА ТЭМУ СЬМЯРОТНАГА ПАКАРАНЬНЯ

У студзені 2009 году ў Беларусі распачалася кампанія "Праваабаронцы супраць сьмяротнага пакараньня". У межах гэтай кампаніі абвяшчаны конкурс творчых працаў па тэме сьмяротнага пакараньня.

Конкурс праводзіцца пад эгідай праваабаронцаў і такіх арганізацыяў, як Беларускі Хэльсінскі Камітэт, Праваабарончы цэнтар "Вясна", Беларускі Пэн-цэнтар, Саюз беларускіх пісьменьнікаў і Беларуская асацыяцыя журналістаў.

Мэта конкурсу – прыцягненьне ўвагі грамадзтва й дзяржавы да праблемы сьмяротнага пакараньня ў Беларусі.

Удзельнікам конкурсу прапануецца выказаць сваё стаўленьне да выключнай меры пакараньня – сьмяротнай кары.

Апошні тэрмін падачы працаў: 25 траўня 2009 году.

Падрабязнасьці чытайце на сайце: http://www.spring96.org/be/news/27599/

## НОВЫ САЙТ ДЛЯ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ WWW.KARIERA.BY

Асноўнай мэтай сайту зьяўляецца задавальненьне запатрабаваньняў моладзі, якая навучаецца, працуе альбо беспрацоўнай, у аб'ектыўнай, структураванай інфармацыі па тэме навучаньня, прафарыентацыі, працаўладкаваньня й разьвіцьця кар'еры. Інфармацыя прадстаўленая на сайце ў вялікім памеры й зручнай форме.

Сайт прапануе грамадзкім арганізацыям, установам і фондам разьмяшчаць на ім інфармацыю аб вакансіях, мерапрыемствах і праграмах для моладзі, а таксама запыты з запрашэньнем валянтэраў.

***Паводле рассылкі belngo.info***

Horki info
Сайт твоего города
• новости
• опросы
• издания
• форум

***Сьмешна, бо актуальна***




